

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№6 (чэрвень), 2016

# Мяжа



ПРАВААБАРОНЦЫ
ЗА СВАБОДНЫЯ
ВЫБАРЫ

## ЗАЯВА КАМПАНІІ “ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ”

(старонка 12)

## ЗЬМЕСТ

## У "незалежнай" Беларусі ў інтарэсах сумежнай Расеі пачынаюць заляkваць лаяльных да Украіны грамадзян




2 чэрвеня Уладзіміра Вялічкіна па тэлефоне запрасілі ў 3 аддзел 6 упраўлення (па Брэсцкай вобласці) "ГУБОПиК" МУС Рэспублікі Беларусь.

Уладзімір Вялічкін распавядае: "Супрацоўнік аддзела патлумачыў мне, што да іх прыйшла інфармацыя з ДАІ, што на маёй машыне знаходзяцца налепкі непажаданага зместу. Дакуманту не паказаў. Сказаў, што іх аддзел займаецца, між іншым, праявамі экстрэмізму і тэрарызму... На маёй машыне налепка з царквой і напісам "Дапамога арміі Украіны". Чаму, з якой мэтай і якім чынам я дапамагаю Арміі Украіны?!!! Ягоны сусед пацікавіўся: "" Вам прапанавалі вступаць ва ўзброеныя аддзелы?"

Для мяне падобны падыход да пытання дэманструе неадэкватны падыход да сітуацыі. Па горадзе гойсаюць дзесяткі, а мо і сотні аўтамабіляў з надпісамі "На Берлін!", "Раздавім фашысцкую гадзіну" і налепкамі з чырвонымі зоркамі та танкамі... З імі гутарак не праводзяць, тлумачэнняў не бяруць і не штрафуюць. У той сама час мясцовыя жыхары памятаюць "чорныя варанкі" і "канцлягеры" "вызваліцеляў"... Я мяркую, што з такой "любоў'ю" беларускага кіраўніцтва да "братняй Расеі" нашы грамадзяне ізноў паедуць асвойваць дэпрэсіўныя рэгіёны Расеі. Я лічу, што гэта сведчыць аб сапраўднай "незалежнасці" краіны - у "незалежнай" Беларусі ў інтарэсах сумежнай Расеі пачынаюць заляkваць лаяльных да Украіны грамадзян".

## Праваабаронцы “Вясны” бяруць удзел ва Усеукраінскім форуме па абароне правоў дзяцей

"Беларуская Праваабарончая Гуманітарная Місія ва Украіне"



працягвае сваю валанцёрскую дзейнасць супольна з украінскімі грамадскімі аб'яднаннямі ў Адэсе.

1 чэрвеня ў Адэсе, падчас святочных мерапрыемстваў прысвечаных Дню абароны дзяцей, быў праведзены збор подпісаў за рэалізацыю правоў дзяцей-сірот і дзяцей, пазбаўленых бацькоўскай апекі, а таксама асоб з іх ліку на жылле. Агулам было сабрана 183 подпісы. Яны будуць прыкладзены да адмысловай заявы, якую падрыхтуюць грамадскія арганізацыі на Форуме па абароне правоў дзяцей.

Акцыя была ініцыяваная і праводзілася актывістамі Праваабарончага цэнтру "Вясна", грамадскіх аб'яднанняў "Альянс па абароне правоў дзяцей", Фарпост Адэса, праваабарончай арганізацыі "Queer Home Адэса".

Сбор подпісаў праводзіўся напярэдадні Усеукраінскага форуму па абароне правоў дзяцей, які пройдзе ў Адэсе 3 чэрвеня.

На форуме, у працы якога прымуць удзел і беларускія праваабаронцы, акрамя іншых пытанняў, будзе абмяркоўвацца стварэнне і рэалізацыя Праграммы па прадастаўленні жылля дзецям

сіротам, пазбаўленым бацькоўскай апекі і асобам з іх ліку. Подпісы плануецца перадаць Упаўнаважанаму Прэзідэнта Украіны па правах дзіцяці.

Нагадаем, сябры Праваабарончага цэнтру “Вясна” і беларускіх НДА ладзяць азнаямленчыя візіты ў гарады Украіны і аказваюць практычную дапамогу ў межах Беларускай праваабарончай гуманітарнай місіі ва Украіне. Беларусы ўжо пабывалі ў Харкаве, Чарнігаве, Львове ды Адэсе.

http://spring96.org/be/news/83228

## Праваабаронцы: Рэпрэсіі ў Беларусі павялічыліся пасьля зьняцьця санкцый ЭЗ

Пасьля зьняцьця санкцый Эўразьвязу зь беларускіх уладаў рэпрэсіі ў краіне сталі менш менш прыкметнымі, але ў некаторых адносінах яны павялічыліся, калі параўноўваць з папярэднім пэрыядам.

Да такой высновы прыйшла нямецка-швайцарская праваабарончая арганізацыя Libereco — Partnership for Human Rights, якая прааналізавала матэрыялы маніторынгу беларускай праваабарончай арганізацыі «Вясна».

Libereco падрыхтавала даклад па рэпрэсіях у Беларусі, прымеркаваны да 3 чэрвеня — 100 дзён пасьля зьняцьця візавых і фінансавых санкцый Брусэлю.

Нямецкія і швайцарскія праваабаронцы зьвяртаюць увагу на жорсткае абмежаваньне свабоды слова і сходаў ды зьвязаны з гэтым імклівы рост штрафаў за публічныя выступы беларускіх апазыцыйных палітыкаў. Паводле іх падлікаў, сума штрафаў, накладзеных на працягу 100 дасьледаваных дзён роўная зарплаце 55 міліцыянтаў за той пэрыяд.

«Нягледзячы на гэта — гаворыцца ў прэс-рэлізе Libereco — беларускім ўладам ўдалося стварыць менш рэпрэсіўны і больш прымальны для міжнароднай супольнасьці імідж. Блізкае галасаваньне ў ААН па скасаваньні пасады Спэцыяльнага дакладчыка ААН па сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі можа стаць ілюстрацыяй посьпеху Лукашэнкі — калі краіны ААН палічаць

сталы нагляд за гэтай сытуацыяй непатрэбным».

Libereco таксама адзначае, што за згаданы пэрыяд 100 дзён колькасьць сьмяротных прысудаў і пакараньняў сьмерцю ў Беларусі перавысіла гэты паказьнік за ўвесь 2015 год.

http://www.svaboda.org/a/27776383.html

## Алесь Бяляцкі: Улады баяцца любых праяваў актыўнасці праваабаронцаў

Нерэгістрацыю гендэрнага цэнтра ў Магілёве кіраўнік Праваабарончага цэнтра "Вясна" расцэньвае як упартае нежаданне ўладаў прызнаваць любыя праблемы з правамі чалавека ў Беларусі.

Як паведаміла Свабодзе старшыня грамадскага аб'яднання "Магілёўскі гендэрны цэнтр «Ружа»" Алена Барысава, Магілёўскі аблвыканкам, матывуючы сваю адмову ў рэгістрацыі, скарыстаў наступны аргумент: мэта выкаранення дыскрымінацыі па прыкмеце полу ўказвае на наяўнасць такой дыскрымінацыі ў Беларусі, але гэтая мэта не адносіцца да кампетэнцыі грамадскага аб'яднання, бо Канстытуцыя Беларусі гарантуе грамадзянам роўныя правы незалежна ад полу. Такім чынам, гарантыі раўнапраўя забяспечваюць упаўнаважаныя на тое дзяржаўныя органы, падсумоўваецца ў адказе аблвыканкама.

Каментуючы сцверджанне наконт адсутнасці гендэрнай дыскрымінацыі ў Беларусі, Алесь Бяляцкі правёў паралель з яскравым эпізодам з савецкай мінуўшчыны:

"Мне згадваецца знакаміты выраз другой паловы 80-х гадоў, калі Людміла Іванова з Камітэту савецкіх жанчын пры абмеркаванні пытання пра адносіны паміж жанчынамі і мужчынамі падчас савецка-амерыканскага тэлемоста заявіла, што "у нас секса нет". І тут тое самае: магілёўскія чыноўнікі заяўляюць, што ў нас у краіне няма дыскрымінацыі па полавай прыкмеце. Насамрэч такое могуць напісаць толькі людзі, якія ня хочуць рэальна ацэньваць тое жыццё, якім мы жывем, людзі няшчырыя і двудушныя. Відавочна, што праблемы гендэрнай дыскрымінацыі ў Беларусі існуюць. Яны ёсць ва ўсім свеце. Часам яны ў нас прыхаваныя, замаскіраваныя, але часта і адкрытыя".




Нерэгістрацыю гендэрнага цэнтру “Ружа” Алесь Бяляцкі называе “праявай нярвовай рэакцыі ўладаў Магілёўскай вобласці на жаданне грамадзянаў зарэгістраваць праваабарончую арганізацыю”.

“Доўгі час у Беларусі не рэгіструюцца новыя праваабарончыя арганізацыі, і цяперашняя адмова стаіць у агульным шэрагу з нерэгістрацыяй рэспубліканскага аб’яднання “Пакт” два гады таму, спробай мясцовых уладаў зачыніць Магілёўскі праваабарончы цэнтр у мінулым годзе, - нагадвае праваабаронца. - Гэта ўпартае нежаданне ўладаў бачыць праблемы з правамі чалавека ў Беларусі, як грамадска-палітычнымі, так і сацыяльнымі, і жаданне кантраляваць, фільтраваць усе праявы грамадскага жыцця”.

Кіраўнік “Вясны” акцэнтуе ўвагу на тым, што “дэклараванасць свабодаў у Канстытуцыі зусім не гарантуе гэтыя свабоды ў рэальным жыцці”.

“Місія праваабарончых арганізацыяў – якраз і дамагацца выканання правоў і свабодаў, прапісаных у Канстытуцыі і міжнародных пагадненнях, якія падпісала Беларусь. Парадаксальным чынам магілёўскія улады падобным рашэннем самі парушаюць Канстытуцыю: фармальна на паперы выступаючы ў абарону

канстытуцыйных правоў, яны парушаюць гэтыя правы ў рэальным жыцці”, - кажа ён.

Падсумоўваючы, Алесь Бяляцкі заўважае: “Улады баяцца праваабаронцаў з любымі праявамі актыўнасці, таму не рэгіструюць новыя праваабарончыя арганізацыі. І гэта ёсць грубае парушэнне як беларускага заканадаўства, так і міжнародных абавязальніцтваў, які ўзяла на сябе беларуская дзяржава”.

http://spring96.org/be/news/83560

## Абмяркавання кандыдатур як заўжды не было

27 чэрвеня 2016 года ўдзельнікі супольнага пасяджэння прэзідыума абласнога савета дэпутатаў і абласнога выканаўчага камітэта вырашылі два пытанні : аб стварэнні і зацверджанні персанальнага складу акруговых выбарчых камісій (АВК), і тэрытарыяльнай выбарчай камісіі Брэсцкай вобласці.

Папрысутнічаць на паседжанні мог кожны грамадзянін. Трэба было толькі зарэгістравацца на ўваходзе.

На паседжанні было агучана, што на ўступленне ў склад выбарчых камісій было пададзена 347 заяў, а ўключана толькі 221 чалавек, у тым ліку ў склад ТВК – 22 заявы, камісіі створаныя «па максімуму» – па 13 членаў.

Прысутным быў прадстаўлены праэкт рашэння з загадзя вызначаным складам выбарчых камісій, які быў зацверджаны шляхом галасавання. Амаль кожнаму з адабраных прэтэндэнтаў давалася кароткая характарыстыка, кшталту: вопытны, адказны. Але нічога не згадвалася, пра тых вылучэнцаў, якія не былі ўключаны ў праект рашэння. Па просьбе аўдыторыі былі толькі «прагавораныя» неўключаныя прозвішчы.

Як патлумачылі прысутным, заявы праглядала і вызначала, хто ўвойдзе ў склад камісій, загадзя створаная «рабочая група». Хацелась бы ведаць кім і на якой прававой базе стваралася і працавала гэтая «рабочая група».

Напрыклад, спадарыня Шчапеткіна, каторую не ўключылі ў склад камісіі кажа: “ Я многа гадоў хочу стаць вашым сябрам , працую педагогам, на выбарах заўсёды назіральнік. І не разумею, чаму мая




кандыдатура заўсёды не падыходзіць?”

На гэтае і падобныя пытанні адказ быў надзвычай просты: не хапае месцаў для ўсіх жадаючых.

## Чыноўнікі або сілавікі: хто даражэй абыходзіцца беларусам?

Акрамя чыноўнікаў для разгрузкі бюджэту варта скараціць сістэму МУС, Следчы камітэт і іншыя сілавыя структуры.

Падчас «усебеларускага нацыянальнага сходу» Лукашэнка запатрабаваў зрэзаць дзяржапарат і павысіць заробак пакінутым чыноўнікам.

Першым выконваць распараджэнні кіраўніка дзяржавы ўзяўся старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра. У эфіры беларускай тэлевізіі ён заявіў пра гатоўнасць .скараціць колькасць сваіх падначаленых на 20%.

Ці дазволіць гэта павялічыць эфектыўнасць дзяржслужбоўцаў ці хаця б зэканоміць?

Уладзімір Кавалкін: Скарачаць трэба, але зусім не службоўцаў

На думку кіраўніка праекта «Кошт Ураду» эканаміста Уладзіміра Кавалкіна, перш чым кагосьці скарачаць, трэба правесці аналіз тых функцый, якія гэтыя чыноўнікі ажыццяўляюць, паведамляе «Заўтра тваёй краіны».

- Інакш можа атрымацца як мінулым разам, калі скарацілі «па галовах», а потым працаваць не было каму, - тлумачыць экспэрт.

Ён мяркуе, што колькасць чыноўнікаў у Беларусі, насуперак

усеагульнай думцы, не з'яўляецца залішняй:

- Справа ў тым, што ў нас шмат не чыноўнікаў, а бюджэтнікаў - гэта значыць, тых, хто атрымлівае заробак з бюджэту. Фактычна, адбываецца пераразмеркаванне падаткаў за кошт тых, хто працуе ў рэальным сектары, у дачыненні да тых, хто працуе за кошт бюджэту, - тлумачыць кіраўнік праекта «Кошт Ураду».

Самая ж залішняя колькасць бюджэтнікаў, са слоў Уладзіміра Ковалкіна, належыць МУС, Следчаму камітэту і іншым сілавым установам.

- Калі палічыць колькасць міліцыянтаў на душу насельніцтва, то Беларусь апынецца на першым месцы ў свеце па гэтым паказчыку, - падкрэслівае ён.

На думку суразмоўцы, чарговае масавае скарачэнне чыноўнікаў - гэта папулізм, які людзям ужо парадкам надакучыў.

- Скарачаць трэба, але зусім не ў тых месцах, - дадае Уладзімір Кавалкін.

Алена Арцёменка: Павысіць чыноўнікам заробак не атрымаецца

Як нагадвае аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS) Алена Арцёменка, такое скарачэнне, толькі на 25%, ужо адбывалася ў Беларусі некалькі гадоў таму.

- Частка чыноўнікаў тады была звольненая, але ў асноўным адбылася аптымізацыя пакета вакансій без рэальнага звальнення людзей, - звяртае ўвагу экспэрт. - Адпаведна, ні эфекту эканоміі не было дасягнута, ні значнага скарачэння дзяржапарату.

Ёсць рызыка, што такая сітуацыя можа паўтарыцца і цяпер, мяркуе экспэрт.

Кажучы пра ініцыятыву павышэння заробкаў пакінутым беларускім чыноўнікам, аналітык BISS сумняваецца, што гэта рэальна.

- Для таго, каб сапраўды адчуць павелічэнне заробкаў, неабходна больш істотнае скарачэнне колькасці чыноўнікаў, - падкрэслівае Алена Арцёменка.

З яе слоў, нават калі дапусціць такі варыянт, то наўрад ці высокі заробак стане тым фактарам, які здольны прыцягнуць на дзяржслужбу кваліфікаваныя кадры.

- Тэарэтычна складаная сітуацыя на рынку працы павінна стымуляваць прыток спецыялістаў высокага ўзроўню на дзяржслужбу. Але, на мой погляд, скарачэнне чыноўнікаў толькі пагоршыць становішча ў гэтай сферы.

На думку суразмоўцы, асноўная мэта запланаванага скарачэння чыноўнікаў - гэта памяншэнне выдаткаў на іх утрыманне.

- Яе магчыма дамагчыся, калі ўрад будзе прымяняць жорсткія меры. Але глабальнага эфекту найбліжэйшым часам наўрад ці варта чакаць, - падводзіць вынік аналітык BISS.

https://charter97.org/be/news/2016/6/28/210957/

## Акцыя “Свабоду Эдуарду Пальчысу!” у Берасці




На людных вуліцах Берасця з’явіліся плакаты ў падтрымку Эдуарда Пальчыса “Свабоду Эдуарду Пальчысу!” На плакаце з яго выявай змешчана інфармацыя пра вязня. Як стала вядома, акцыю правялі актывісты кампаніі “Еўрапейская Беларусь”.

Эдуард Пальчыс, меркаваны стваральнік і аўтар рэсурсу 1863x.com вядомы пад псеўданімам “Джон Сільвер”, экстрадаваны ў

Беларусь з Расеі і знаходзіцца ў Жодзінскай турме, куды перавялі яго з Валадаркі. Яму інкрымінуюць распальванне расавай, нацыянальнай ці рэлігійнай варожасці і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў. Яму пагражае да 5 гадоў турэмнага зняволення.

«1863х» – калектыўны блог, аўтары якога аналізавалі бягучыя палітычныя падзеі ў Беларусі, Расеі і Украіне, а таксама беларускай гісторыі і культуры. Востра крытыкавалі Лукашэнку і Пуціна.

http://www.racyja.com/hramadstva/aktsyya-svabodu-eduardu-palchysu-u-b/

## ЗАЯВА КАМПАНІІ “ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ”

з нагоды пачатку выбараў дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь

Мінск, 7 чэрвеня 2016 г.



ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь сваім указам вызначыў дату правядзення чарговых выбараў дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў – 11 верасня 2016 года. Паводле арт.арт. 91 і 94 Канстытуцыі, дэпутаты абіраюцца на чатыры гады непасрэдна народам на падставе ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры таемным галасаванні.

Выбары дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў папярэдніх скліканняў выклікалі сур’ёзную крытыку з боку міжнародных назіральнікаў БДІПЧ АБСЕ, а таксама нацыянальных незалежных назіральнікаў, прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі. Ніводны склад Палаты Прадстаўнікоў не быў прызнаны як абраны паводле прынцыпаў, вызначаных Дакументам Капенганескай нарады Канферэнцыі па чалавечаму вымярэнню АБСЕ. Калі выбары 2016 года будуць праведзены на падставе прынцыпаў свабоды, дэмакратыі, роўнасці

ўсіх удзельнікаў палітычнага працэсу, яны могуць стаць значнай падзеяй у грамадска-палітычным жыцці краіны і выклікаць вялікую цікавасць з боку суб’ектаў палітычнага працэсу, прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і грамадзян Беларусі.

Улічваючы важнасць незалежнай ацэнкі, мы, прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацый -- Беларускага Хельсінкскага камітэта і Праваабарончага цэнтра “Вясна”, пачынаем маніторынг выбараў дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў у межах грамадскай кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары”.

Мэтай маніторынгу з’яўляецца ацэнка выбарчага працэсу і забеспячэння правоў чалавека падчас выбарчай кампаніі з пункту гледжання беларускага выбарчага заканадаўства і міжнародных стандартаў свабодных і дэмакратычных выбараў, інфармаванне беларускай грамадскасці і міжнароднай супольнасці пра ход электаральнай кампаніі і зробленыя высновы.

Назіранне за выбарамі дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў у межах кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары” будзе ажыццяўляцца сіламі сябраў нашых арганізацый у строгай адпаведнасці з дзеючым нацыянальным заканадаўствам.

Доўгатэрміновае назіранне за ўсімі этапамі выбарчага працэсу і грамадска-палітычнай сітуацыяй будзе ажыццяўляцца 50 доўгатэрміновымі назіральнікамі, якія размеркаваны па ўсёй тэрыторыі краіны. Доўгатэрміновыя назіральнікі будуць акрэдытаваны ў тэрытарыяльных і акруговых камісіях.

За правядзеннем галасавання на выбарчых участках ад пачатку датэрміновага галасавання будуць назіраць 400 кароткатэрміновых назіральнікаў на 200 участках для галасавання па ўсё тэрыторыі краіны.

Па выніках назірання за выбарамі будзе зроблена аналітычная справаздача, а таксама выпрацаваны рэкамендацыі па далейшым удасканаленні выбарчага заканадаўства. Дадзеныя рэкамендацыі будуць накіраваны ў новаабраны заканадаўчы орган. Мы спадзяемся, што вынікі нашага назірання і выпрацаваныя рэкамендацыі будуць улічаны пры ўнясенні зменаў у Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь.

Кампанія “Праваабаронцы за свабодныя выбары” з’яўляецца

незалежнай і палітычна незаангажаванай. Мы не ставім за мэту падтрымку палітычных партый, а таксама якіх-небудзь палітычных дзеячоў. Увесь выбарчы працэс будзе ацэньвацца намі максімальна непрадузята, сыходзячы выключна з прынцыпаў свабодных, дэмакратычных і празрыстых выбараў, пры якіх народ нашай краіны можа ў поўнай меры рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права на ўдзел у кіраванні сваёй краінай.

http://spring96.org/be/news/83270

## Эксперты: Пенсійны ўзрост у Беларусі давядзецца падымаць яшчэ раз

Чыноўнікам Лукашэнкі не цікавыя дыскусіі падчас прыняцця той ці іншай пастановы.

У Беларусі з 1 студзеня 2017 года пачнуць паэтапна павышаць пенсійны ўзрост, і ўжо ў 2022 годзе жанчыны будуць выходзіць на пенсію ў 58 гадоў, а мужчыны - у 63 гады. Ці дастаткова будзе гэтага кроку, каб зняць напружанне з пенсійнай сістэмы або праз некалькі гадоў ураду зноў давядзецца ісці на непапулярныя меры?

Пенсійны ўзрост паднялі - праблемы засталіся

З павелічэннем узросту выхаду на пенсію асноўныя праблемы, праз якія была прынятая такая пастанова, застануцца. Пра гэта заявіла экспэрт Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Кацярына Барнукова падчас чарговай дыскусіі з серыі «Што думаюць беларусы», паведамляе сайт naviny.by.

Нягледзячы на павелічэнне колькасці жыхароў Беларусі, рэальнасцю застаецца дэмаграфічны крызіс, звярнула ўвагу экспэрт.

На 1 студзеня 2016 года колькасць насельніцтва склала 9 млн 498,7 тыс. чалавек і ў параўнанні з пачаткам 2015 года павялічылася на 17,8 тысячы. Пераламаць тэндэнцыю дэпапуляцыі атрымалася ў 2013 годзе, калі колькасць насельніцтва Беларусі дасягнула 9 млн. 468,1 тыс. чалавек, што было на 4700 чалавек больш, чым годам раней.

Павелічэнне нараджальнасці, якое назіраецца цяпер, з'яўляецца следствам бэбі-буму ў 80-я гады, адзначыла Кацярына Барнукова. Пры гэтым піраміда насельніцтва наглядна паказвае, што ў нашай краіне доля жыхароў старэйшых узростаў значна меншая, чым моладзі.

Экспэрт звярнула ўвагу на прагноз ААН, згодна з якім колькасць працаздольнага насельніцтва будзе зніжацца, а

колькасць насельніцтва старэйшых за працаздольны ўзрост - павялічвацца.

«Думаю, праз пяць гадоў мы не будзем назіраць такога росту нараджальнасці, як цяпер, асабліва ўлічваючы цяперашнюю эканамічную сітуацыю. Гэта азначае, што застаецца праблема старэння насельніцтва, гэта значыць павелічэння долі насельніцтва старэйшых узростаў. Акрамя таго ў Беларусі вельмі ранні ўзрост выхаду на пенсію - адзін з самых ранніх узростаў выхаду на пенсію», - сказала Кацярына Барнукова.

Акрамя таго, звярнула ўвагу эксперт, неабходна ўлічваць рост працягласці жыцця. Цяпер пасля выхаду на пенсію жанчыны жывуць у сярэднім 25 гадоў, а мужчыны толькі 15 гадоў. Гэта азначае, што «ў сярэднетэрміновым перыядзе пенсійны ўзрост давядзецца выраўняць».

«Гэта неабходна рабіць, калі мы гаворым аб гендэрнай роўнасці і хочам, каб у жанчын і мужчын былі аднолькавыя правы на рынку працы. Неабходна падняць узрост выхаду на пенсію да 65 гадоў для ўсіх. У такім выпадку, згодна з нашымі прагнозамі, гэта дазволіла б неяк пратрымацца да 2045 года», - сказала Кацярына Барнукова.

Як адзначыла кіраўніца праекта дэмаграфічнай бяспекі ЮНФПА ў Рэспубліцы Беларусь Марыяна Сакалова, у адказ на рост працягласці жыцця людзі сярэдняга ўзросту могуць фундаментальна змяніць свае паводзіны, пачаўшы адкладаць больш рэсурсаў на пенсійны перыяд.

Аднак у Беларусі практычна няма альтэрнатыўных механізмаў назапашвання - доўгатэрміновыя дэпазіты з прычыны высокай інфляцыі і перманентнага падзення курсу нацыянальнай валюты не могуць быць такім інструментам, пенсійныя фонды развіты вельмі слаба.

Акрамя таго, людзі старэйшага ўзросту праз негатыўны жыццёвы досвед свайго і мінулых пакаленняў папросту не давяраюць назапашвальным інстытутам.

«Хацелася б, каб прадстаўнікі моладзі памянялі свае ўстаноўкі і прыйшлі да высновы, што на пенсію трэба адкладаць», - адзначыла Мар'яна Сакалова.

Аднак пераход на назапашвальную пенсійную сістэму немагчымы за адзін раз. Досвед іншых краін паказвае - каб назапашвальная сістэма ахапіла істотны адсотак насельніцтва, неабходныя дзесяцігоддзі, адзначыла Кацярына Барнукова.

Краіна «Унесенных ветром»

У сучаснай Беларусі ў прынцыпе немагчыма будаваць прагнозы і стратэгіі развіцця на доўгатэрміновы перыяд. Гэта датычыцца і

пенсійнай рэформы, мяркуе эканаміст Сяргей Чалы.

«Складана будаваць планы, калі няма пэўнасці на доўгатэрміновую перспектыву. У нас атрымліваецца, як у «Унесенных ветром». У выпадку ўзнікнення сур'ёзных пытанняў заўсёды адна стратэгія - падумаем пра гэта заўтра. Так і з пенсійнай рэформай - прынялі пастанову да 2020 года, гэта значыць адклалі праблему на гэты тэрмін».

З тым, што цяперашняя беларуская ўлада здольная генераваць толькі рэактыўныя развязанні, згодны і эксперт НІСЭПД (Вільня) Сяргей Нікалюк.

«Мы выбралі больш за 20 гадоў таму такую ўладу, якой не цікавыя дыскусіі падчас прыняцця таго ці іншага развязання. А сутнасць яе палітыкі - у рэактыўным адказе на тое, што адбываецца. Пакуль смажаны певень не клюне - не могуць шукаць», - адзначыў Нікалюк.

Эксперты BEROC змадэлявалі працу пенсійнай сістэмы амаль на сто гадоў наперад і зрабілі выснову, што ў існуючых эканамічных рэаліях «сістэму не ратуе павышэнне пенсіённага ўзросту».

Такім чынам, мяркуе Кацярына Барнукова, відавочна, што тое, што адбылося павелічэнне пенсійнага ўзросту да 58 і 63 гадоў не з'яўляецца канчатковым:

«Рана ці позна мы будзем вымушаныя прыйсці да таго, што пенсійны ўзрост будзе зноў павялічаны, тым больш што заяўленае павышэнне пенсіённага ўзросту будзе адбывацца павольна. Калі цяпер на дзесяць чалавек працаздольнага ўзросту прыпадае чатыры пенсіянеры, то ў 2035 года будзе шэсць».

З тым, што пенсійны ўзрост можа быць павышаны яшчэ раз, згодная і эксперт ЮНФПА Марыяна Сакалова: «Ад павышэння пенсійнага ўзросту мы не сыдзем. Аднак калі мы хочам усё зрабіць правільна, патрэбныя структурныя эканамічныя рэформы, у рамках якіх асобна можа разглядацца і пенсійная рэформа. Узрост выхаду на пенсію другасны».

https://www.charter97.org/be/news/2016/6/7/207938/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»